

# ХЛОПЧЫК І ЛЁТЧЫК

ЯНКА КУПАЛА

— Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!
Я—ведай—вялікі ўжо хлопчык,
І ўмею ўжо лётаць у сне.

Мне мама сягоння казала,
Што стукнула мне ўжо сем год,
Табе гэта можа і мала,
А мне ляцець толькі ў палёт.

Мне ўжо надакучыла дома—
У дзіцячы хадзі адно сад,—
А так паглядзеў-бы, вядома,
На іншы парадак і лад.

Вазьмі-ж мяне, лётчык, хачу я
Пабыць у людзях, паглядзець,
Як месяц на небе начуе,
Як блукае ў лесе мядзведзь.

Як свецяцца ночкаю зоры,
А днём не відаць іх чаму,
Як рэчкі ў далёкія моры
Улетку плывуць і ўзіму.

На моры зірнуць хоць раз вокам,
Як ходзяць па іх караблі,
Ляцеці далёка, высока
Ды так пабываць і ў Крамлі.

І там з-пад нябеснае далі
Грымнуць громка ўсімі грудзьмі:
— Дзень добры, таварыш наш
Сталін!
Паклон з самалёту прымі!

Вось гэтак у добрым здароўі
Мы будзем ляцець і ляцець.
Вазьмі-ж мяне, лётчык, з сабою,
Не будзеш ты клопату мець!

Ляўкі. Аршаншчына.
Чэрвень, 1935.

# ПАЛЯВАННЕ НА ЗМЕЙ



*Апавяданне А. Петрова*]
*Малюнкі В. Тіхановіча*

Аднойчы на беразе Джамны — вялікай індыйскай ракі — я ўбачыў двух індусаў: дарослага і хлопчыка гадоў трынаццаці. Яны нешта рабілі каля тэрмітніка*).

— Гэта паляўнічыя на змей,—сказаў мне праваднік.

Я з цікавасцю падышоў да людзей. Старэйшы аглядаў тэрмітнік; муравейнік быў даўно пакінуты гаспадарамі і меў глыбокія шчыліны.

Паляўнічы прысеў на куркішкі і пачаў углядацца ў адну з шчылін.

— Там нешта ёсць,—сказаў ён нарэшце.

Хлопчык (яго сын) прынёс з-пад дрэва доўгую бамбукавую палку. Яна была распілавана ўдоўж і жолаб яе быў ачышчаны ад перагародак. Хлопчык палажыў яе каля тэрмітніка і дастаў з мяшка вяроўку і кучу анучак.

— Больш не трэба нічога?—спытаў ён у бацькі.

— На ўсякі выпадак дай нож.

Паляўнічы запаліў анучку і апусціў яе ў шчыліну. З змяінай нары валіў дым. Хлопчык адышоў у бок і ўважліва наглядаў.

Раптам у шчыліне нешта мільганула і знікла. Яшчэ і яшчэ раз... Нібы мышка бегала па нары. Паляўнічы падняў правую руку; яго мускулы напружыліся, а вочы ўтаропіліся ў шчыліну.

У гэты момант разам з клубком дыма з шчыліны паказалася галава, а за ёю—ярка-жоўтая шыя змяі. Гадзіна павярнула галаву ў адзін, другі бок. Яе раздвоены язычок скоранька варушыўся.

Цёмна-карычневая рука паляўнічага мільганула ў паветры і схапіла змяю за шыю. Змяя шырока разявіла рот, ды так зашыпела, што магла напалохаць нават адважнага чалавека.

— Яна ўкусіць яго!—спалохана ўскрыкнуў мой праваднік.

---

*) *Тэрміты*—род мурашак, яны будуюць з зямлі высокія муравейнікі—тэрмітнікі.

Змяя круціла галавою, стараючыся дастаць да рукі. Яе вочкі блішчэлі, як вугольчыкі. Паляўнічы схапіў яе другою рукою і паспрабаваў выцягнуць з нары. Але не тут-то было! Змяя моцна трымалася ў глыбіні тэрмітніка. Паляўнічы сціснуў ёй горла. Змяя шалёна затрапяталася, але неўзабаве сцішылася. Цяпер паляўнічы пачаў цягнуць яе. З'явілася тулава—жоўтае з чорнымі плямамі, па ім бурна прабягалі сударгі. Гэта была страшэнна ядавітая балотная гадзюка; яе яд атручвае кроў і прыносіць пакутную смерць.

Хлопчык падбег і дапамог бацьку справіцца з гадзюкай. Змяю выцягнулі на метра паўтара, але яе хвост яшчэ заставаўся ў тэрмітніку.

У гэту хвіліну змяя маланкай вырвалася з рук хлопчыка і чорна-жоўтаю істужкай абкруцілася навакол паляўнічага. Мой праваднік ускрыкнуў. Але паляўнічы не страціў смеласці: ён з такою сілай сціснуў змяінае горла, што гадзюка распусціла кольцы і, як бізун, павісла ў руках.

Змяю палажылі ў бамбукавы жолаб і, накрыўшы другою палавінкай палкі, завязалі канцы анучкай і вяроўкай. Змяя была нібы „замураванай" у бамбуку; у такім становішчы ёй трэба было праляжаць, можа, некалькі тыдняў.

— Каму вы прадаеце змей?—спытаў я.

— Аднаму багатаму купцу. Як назбіраецца шмат, ён адпраўляе іх у Бамбей, а адтуль морам у еўрапейскія і амерыканскія звярынцы.

— Колькі вы атрымаеце за гадзюку?

— 50 цэнтаў *).

50 цэнтаў! З-за гэтых капеек людзі рызыкавалі жыццём!

Адпачыўшы, паляўнічы падышоў да другога тэрмітніка.

Тэрмітнік меў страшны выгляд. Ён быў увесь пабіты на шчыліны і дзіркі. Мне здавалася, што ў ім аж кішаць змеі. Паляўнічы агледзеў яго і спыніўся, задумаўшыся.

— Падай двузубец,—сказаў ён сыну.

Прылада была зроблена з доўгай палкі з жалезнымі вілкамі на канцы. Паляўнічы апусціў анучку з агнём у самую глыбокую шчыліну, а сам з двузубцам у руцэ стаў каля тэрмітніка.

— Гэта не паляванне, а самагубства,—сказаў мой праваднік.

Тэрмітнік задыміўся, як вулкан. Праз хвіліну з ніжняй шчыліны выбег скарпіён велічынёю з рэчнага рака. Ён пагражальна задраў хвост, у якім знаходзіцца смяртэльная іголка і схаваўся пад апаўшымі лісцямі.

Але вось паляўнічы скоранька падняў двузубец: з цёмнай шчыліны паказалася кобра (ачковая змяя). Страшыдла павольна выпаўзла з свайго

---

*) *50 цэнтаў*—каля 28 капеек.



*Паляўнічы пачаў цягнуць змяю.*

дзённага прытулку. Яе раздзьмутая шыя высока паднялася над зямлёй. Кобра была раззлавана і рыхтавалася жорстка пакараць тых, хто парушыў яе спакой. Пад праменнямі сонца чорнабурая луска гадзюкі блішчэла золатам.

— Я баюся,—прамармытаў за маёю спіною праваднік.

Кобра скруцілася кольцамі каля самага тэрмітніка і стала пакручваць галавою, стараючыся знайсці ворага. Яна ляжала ў трох шагах ад паляўнічага; вядома, яна бачыла яго, але не здагадвалася, што прадмет, які стаяў нерухома, быў жывым.

З часам змяя супакоілася. Яна апусцілася ў траву і папаўзла да кустоў.

Паляўнічы быў напагатове; яго двузубец маланкаю рассек паветра

з сілаю прыціснуў да зямлі змяіную шыю. Удар быў зроблен надзвычайна спрытна. Пад кобраю нібы выбухнула зямля. Хмара пяску і каменьчыкаў узляцела ў паветра. Змяя шалёна закруцілася наваkол палкі, стараючыся вызваліцца. Яна скручвалася ў петлі і кольцы і з такою сілай білася аб палку, што тая дрыжэла ў руках паляўнічага.

— Адыйдзіце далей,— сказаў праваднік.

Паляўнічы налёг на палку ўсім цяжарам цела. Кобра затрапяталася яшчэ мацней, але неўзабаве выцягнулася ва ўсю даўжыню—яна задыхалася ў абцугах. Перабіраючы палку рукамі, паляўнічы падышоў да змяі і стаў разглядаць, у якім становішчы была галава. Потым ён нагнуўся і ўзяў кобру за шыю. Праз хвіліну ён адкінуў двузубец у бок і хутка падняў кобру ўгору.



*Кобра кольцамі абвіла нагу паляўнічага.*

Хлопчык падышоў да бацькі. У гэты момант кобраірванулася і раптам апынулася на зямлі. Здарылася нешта жахлівае. Кобра кольцамі абвіла нагу паляўнічага. Ён глуха ўскрыкнуў і адскочыў у бок, а змяя хутка папаўзла к нам.

— Ратуйцеся! — закрычаў праваднік і кінуўся наўцёкі.

Я схапіў з пляча стрэльбу і выстралам ва ўпор забіў змяю. Затым я падбег да паляўнічага. Ён сядзеў на зямлі і, спяшаючыся, рэзаў нажом сваю левую нагу ніжэй калена. Кроў лілася раўчукамі; пад нагою набегла цэлая лужына. Паляўнічы кінуў нож і ўзяўся з усіх сіл сціскаць нагу, каб прымусіць кроў цячы яшчэ лепш.

— Я не пасцярогся і кобра ўкусіла мяне, — сказаў ён спакойным голасам.

Я паспешна дастаў з сумкі шпрыц і бутэлечку з супроцьядам ды зрабіў

паляўнічаму некалькі ўколаў у рану. Пасля гэтага я туга забінтаваў нагу да калена.

— Дзякую вам. Я думаю, што амаль увесь яд вышаў з кроўю,— сказаў паляўнічы, падымаючыся на ногі. Ён убачыў плакаўшага сына і сказаў яму некалькі супакойваючых слоў.

Вечарэла. Праваднік разлажыў вялікі касцёр. Паляўнічы лёг каля агню. Яго трэсла і на ілбе выступілі кроплі поту.

— Гэта не першы выпадак,—ледзь прагаварыў ён.—Мне заўсёды ўдавалася выціскаць яд. Праўда,—дадаў ён,—мяне кусалі змеі менш ядавітыя, чым кобра.

— Чаму вы не займецеся другою работаю?—спытаў я.

Паляўнічы ўсміхнуўся.

— Якою, другою? Я доўга шукаў работы. Памешчыкі натоўпамі звальняюць рабочых. Рысавыя і чайныя плантацыі (палеткі) не апрацоўваюцца. Саматужнікі галадаюць, бо вырабаў іх ніхто не купляе. Усюды беспрацоўе. Мы галадалі, пакуль я не знайшоў гэтай работы. Яна небяспечная, але ў мяне не было выбару... У маёй сям'і восем чалавек, усе хочуць есці. Значыць, трэба рабіць, што трапляецца, і не думаць пра небяспеку.

Паляўнічы змоўк. Хлопчык, не варушачыся, сядзеў каля яго галавы. Бацька пачаў нешта ціха гаварыць яму. Сын у адказ толькі ківаў галавой.

Настала ноч. Праваднік падкінуў у агонь галля і, прымасціўшыся зручней, заснуў. Хлопчык па-ранейшаму сядзеў каля бацькі. Хворага часамі торгала, і ён мармытаў сам сабе. Я памацаў яго лоб; ён быў пакрыты ліпкім потам. Паляўнічы скалануўся і расплюшчыў вочы.

— Ні-і-чога, я пап-праўлюся, — сказаў ён зацвердзяваючым языком.

Гэта былі яго апошнія словы. У поўнач паляўнічы памёр. Нібы заснуў, палажыўшы руку на калена сыну.






Гадоў пяцьдзесят таму назад у Маскве не было ні трамваяў, ні аўтамабіляў. Багатыя паны, чыноўнікі і купцы раз'язджалі па пыльных вуліцах у карэтах. Рабочыя і гарадская беднага праз усё сваё жыццё хадзілі пехатой.

Так жыла старая царская Масква.

А зараз на вуліцах Масквы цесна ад трамваяў, аўтамабіляў, тролейбусаў, матацыклаў, веласіпедаў... На тратуарах цесна ад пешаходаў.

Масква—сталіца вялікай, першай у свеце пралетарскай дзяржавы. У Маскве каля 4 мільёнаў жыхароў. Тысячы людзей кожны дзень прыбываюць у Маскву па розных справах. Трамваі не могуць перавозіць столькі людзей: у трамваях таксама стала цесна.

І вось 4 гады таму назад т. СТАЛІН паставіў перад маскоўскімі большэвікамі задачу—пабудаваць метрапалітэн.

Метрапалітэн (або скарочана—метро)—гэта падземная чыгунка. Калі цесна на вуліцах—значыць адзіны выхад спусціцца пад зямлю і там наладзіць рух.

Нялёгка было будаваць падземную чыгунку. Толькі некалькі самых вялікіх гарадоў свету маюць метро. І будавалі іх дзесяткамі год. Ды якія гэта метро! Сырыя, цёмныя скляпы...

„Наш метро павінен быць лепшым у свеце",—сказаў лепшы саратнік т. СТАЛІНА—Лазар Майсеевіч КАГАНОВІЧ.

І ён сам узяўся кіраваць гэтай труднай пабудовай. Ён арганізаваў самых выдатных інжынераў, архітэктараў, тэхнікаў; сабраў дзесяткі тысяч рабочых.

Інжынеры і архітэктары склалі планы. Рабочыя брыгады па гэтых планах пабудавалі шахты, спусціліся пад Маскву, каб пракладаць тунель і будаваць станцыі метро. Сталі капаць грунт. Капаюць, і раптам—вада, як з магутнай помпы. Што такое? У чым справа? Аказваецца—гэта рэшткі даўнейшай рэчкі. Капаюць у другім месцы—зноў бяда: зямля сама плыве на рабочых. Гэта—плывуны, мяккія пароды.

Калісці на месцы цяперашняй Масквы было шмат рэчак, былі балоты. Іх засыпалі, загацілі. А як дакапаліся цяпер — вада і плывуны хлынулі наверх.

Трудна было ваяваць з такім падзямеллем. Але метро будавалі лепшыя людзі Масквы і ўсёй краіны. Заводы пасылалі на метро лепшых ударнікаў, а маскоўскі камітэт комсамола вылучыў 10 тысяч лепшых комсамольцаў. І яны перамаглі.

Метро пабудован!

15-га мая гэтага года метро быў адкрыт для агульнага карыстання.

Уся рабочая Масква спусцілася пад зямлю. Радасныя, шчаслівыя масквічы запоўнілі 13 прыгожых падземных палацаў. Гэта—станцыі метро; светлыя, прасторныя, сухія, пабудаваныя з самых дарагіх матэрыялаў. Сапраўдныя падземныя палацы! На пяці самых глыбокіх станцыях (да 35 метраў пад зямлёй) пабудаваны дзіўныя лесніцы, якія самі рухаюцца і бесперапынна возяць пасажыраў уніз і ўверх.



*Станцыя „Дворец Советов“. На фатаграфіі—касавы зал.*

Да станцый з тунеляў падыходзілі чысценькія жоўтыя і сінія прасторныя вагоны электрычных паяздоў. Паязды спыняліся супроць перонаў і тут-жа дзесяткі дзвярэй самі адкрываліся: „Заходзь, калі ласка". Людзі заходзілі ў прыгожыя вагоны, садзіліся на мяккія канапы. Дзверы ўслед зноў-жа самі закрываліся, і па сігналу дзяжурнага станцыі „гатова" поезд рухаўся ды хаваўся ў тунелі, каб праз некалькі хвілін выскачыць на другой станцыі.

Такая дзіўная чыгунка цягнецца на 12 кілометраў. Але гэта толькі першая чарга вялікай пабудовы.

250 будаўнікоў метро атрымалі вышэйшыя ўзнагароды ад ураду—ордэны ЛЕНІНА, ЧЫРВОНАЙ ЗВЯЗДЫ, ПРАЦОЎНАГА СЦЯГА і ГАНАРОВЫЯ ГРАМАТЫ.

І ў гэты-ж урачысты радасны дзень на вялікім сходзе будаўнікоў метро т. СТАЛІН прапанаваў:

„Усім другім будаўнікам абвясціць падзяку, а маскоўскаму комсамолу за асаблівыя заслугі даць ордэн ЛЕНІНА".

Вялікі сход пераможцаў доўга і горача вітаў свайго правадыра, па мыслі і пад кіраўніцтвам якога збудаваны наш лепшы ў свеце метрапалітэн.

І метро назвалі імёнем Л. М. КАГАНОВІЧА, галоўнага няўтомнага будаўніка маскоўскага метрапалітэна.




*Поезд метро падыходзіць да станцыі.*

# ЛЕБЕДЗЬ, ШЧУПАК І РАК

І. А. КРЫЛОЎ

*БАЙКА*

Калі ў таварышаў не будзе згоды—
На лад не пойдзе справа ў іх.
А выйдзе з гэтага не справа—
толькі мука.

Аднойчы рак, шчупак ды лебедзь—
утраіх
У воз нагружаны ўпрагліся
І везці разам узяліся.
Аж з скуры лезуць вон—а возу
няма ходу,
Хоць і нямнога ў ім таго цяжару,
Ды лебедзь рвецца ўвысь, у хмары,
Рак пнецца ўсё назад, шчупак-жа
цягне ў воду.

Хто вінаваты з іх, хто не—судзіць
не нам,
Ды толькі воз і зараз там.

**Пераклад А. Я.**





# ПЫХ

*Народная казка*
*Апрацавала В. Луцэвіч*

Жылі-былі дзядулька, бабулька ды ўнучка Аленка. І быў у іх гарод.

А ў гародзе тым і капуста, і бурачкі, і моркаўка, нават і рэпка жоўтая расла.

Захацелася дзедку рэпкі... Вось і пайшоў ён у гарод. А ў гародзе горача-горача, а ў гародзе ціха-ціха. Толькі пчолкі жужжаць ды камарыкі пішчаць.

Прайшоў дзед градку з капустай, прайшоў градку з бурачкамі, прайшоў градку з моркаўкай... А вось і рэпка.

Толькі нахіліўся дзед рэпку выцягнуць, а пад кустом хтосьці: „Ппы-ы-хх! ппы-ы-хх! Ці не дзедка гэта? Ды ці не пра рэпку ён?"

Спужаўся дзед ды як пабяжыць—каля моркаўкі, каля бурачкоў, каля капусты. Ледзь-ледзь дахаты дабег, на лаўку сеў, аддыхацца не можа.

— Ну, што, дзедка: прынёс рэпку?

— Ох, бабка, там пад кустом хтосьці страшны сядзіць і пыхкае. Я ледзь адтуль уцёк.

— Ды кінь ты, дзедка! Вось я сама пайду, дык напэўна рэпку прынясу.

І пайшла бабка ў гарод. А ў гародзе горача-горача, а ў гародзе ціха-ціха... Толькі пчолкі жужжаць ды камарыкі пішчаць.



Прайшла бабка градку з капустай, прайшла градку з бурачкамі, прайшла градку з моркаўкай, а вось і рэпка.

Толькі нахілілася бабка рэпку цягнуць, а пад кустом хтосьці: „Ппы-ы-хх! ппы-ы-хх!.. Ці не бабка гэта? Ды ці не па рэпку прышла?“ Спужалася бабка ды хутчэй бегчы... каля моркаўкі, каля бурачкоў, каля капусты. Ледзь-ледзь дахаты дабралася. На лаўку села, аддыхацца не можа.

— Ой, дзедка, праўду ты казаў, там пад кустом хтосьці страшны сядзіць і пыхкае. Ледзь я адтуль уцякла.

Пайшла Аленка ў гарод. А ў гародзе горача-горача, а ў гародзе ціха-ціха, толькі пчолкі жужжаць ды камарыкі пішчаць.

Прабегла Аленка градку з капустай, прабегла градку з бурачкамі, прабегла градку з моркаўкай. А вось і рэпка...

Толькі нахілілася Аленка рэпку цягнуць, а пад кусцікам хтосьці „Ппы-ы-хх! ппы-ы-хх! Ды ці не Аленка гэта?.. Ды ці не па рэпку прышла?“

Засмяялася Аленка ды крычыць звонкім галаском, нібы званочкам:

— Так, так. Гэта я, Аленка. Бабульцы, дзядульцы па рэпку прышла...

А на градцы нешта зноў як запыхкае: „Ппы-ы-хх!“ Нахілілася Аленка над градкай—глядзіць туды, глядзіць сюды. І ўбачыла: ляжыць нейкі калючы клубочак ды пыхкае: „Ппы-ы-хх! ппы-ы-хх!“ Засмяялася Аленка ды кажа:



— Ах ты, вожык, ах ты, калючы, гэта ты дзядульку ды бабульку напужаў, гэта ты іх ад рэпкі прагнаў?

А вожык выцягнуў свой носік ды зноў: „Ппы-ы-хх! ппы-ы-хх!“

Пацягнула Аленка рэпку раз, пацягнула два, пацягнула тры,—рэпка так і выскачыла з зямлі. Ды якая! Вялікая ды круглая, жоўтая ды салодкая.

Узяла Аленка рэпку ў рукі, узяла вожыка ў фартушок і пабегла дадому. Каля моркаўкі, каля бурачкоў, каля капусты, мігам дахаты дабегла.

Сустракае Аленку дзедка, сустракае Аленку бабка—пытаюцца:

— А рэпку ты прынесла?

— Вось вам, дзядулька, бабулька, і рэпка.

Усцешылася бабка, усцешыўся дзедка. Ну і ўнучка, ну і Аленка!

— А як-жа—пых? Не баялася ты яго?

Расхіліла Аленка свой фартушок ды і кажа: „А вось вам і пых!“

Смяецца дзедка, смяецца бабка. Ну і малайчына наша Аленка, ну і смелая наша ўнучка!



# ВЫДАТНЫ САДОЎНІК

Яшчэ ў дзяцінстве маленькі Ванька марыў пра дзівосныя рэчы.

— А што каб у нас развесці вінаград?—сказаў ён аднойчы самым сур'ёзным голасам.

Суседзі насмешліва паглядзелі хлопцу ў вочы.

— Ты хочаш поўдзень зрабіць на поўначы? Не забывайся, хлопча, пра халодныя зімы. Вінаград любіць сонца, цяпло...

— Тады яго трэба прывучыць да холаду,—не здаваўся Ванька.

— Вучоныя садаводы даўно зрабілі-б гэта, каб можна было,—няўпэўнена адказалі суседзі.

З затоенай думкаю — быць добрым садаводам — Іван Владзіміравіч паступае вучыцца. Ён разумее — толькі добра граматны, добра адукаваны чалавек можа быць карысным на такой рабоце, як садаводства.

Скончыўшы гімназію ў горадзе Туле, Іван Владзіміравіч прыязджае ў горад Казлоў. Тут ён пастулае на чыгунку канторшчыкам. Але работа гэта не задавальняе Івана Владзіміравіча. Неўзабаве ён кідае службу, купляе невялічкі кавалак зямлі каля горада Казлова і ўвесь аддаецца любімай справе — садоўніцтву. Іван Владзіміравіч ставіць перад сабою смелую задачу:

— Прырода павінна даваць чалавеку тое, што яму трэба, а не тое, што ёй хочацца.

Малады садавод вырашае:

„Сады могуць быць і будуць не толькі ў цёплых краях, але і ў халоднай Сібіры, на далёкай поўначы". І ён шчыра бярэцца за работу.

Многія вучоныя садаводы сталі смяяцца з Івана Владзіміравіча, але ён адказваў ім:

— Бярыцеся за работу, рабіце вопыты, наглядайце самі, правярайце. Мы пераможам.

І сапраўды перамог Іван Владзіміравіч. Якіх толькі вопытаў не рабіў ён!

Вы ўсе ведаеце рабіну. Гэта горкія ягады. Іх ніхто амаль не есць. А наш выдатны садавод зрабіў гэтае дрэва карысным. Ён узяў галінку рабіны і прышчапіў на ігрушы. На адным дрэве сталі расці ігрушы і рабіна. Зерняты прышчэпленай рабіны павінны былі даць новы гатунак. Але з іх доўга нічога не выходзіла. Толькі на дзевяты год насенне ўзышло і дало зусім адменныя салодкія ягады.

Або такі вопыт: Іван Владзіміравіч узяў ігрушку і яблыню і скрыжаваў іх. Вышла вельмі дзіўнае дрэва, якое дае незвычайныя плады: на выгляд яблык, а на смак ігруша.

Гады ішлі... У горадзе Казлове з'явіліся такія пладовыя дрэвы, якіх яшчэ не бачыў свет. Слава пра мічурынскі сад далёка пайшла за межы Расіі. З усіх краін сталі прыязджаць сюды вучоныя садаводы павучыцца... А Іван Владзіміравіч працуе ў гэты час у недахватках, працуе, як саматужнік-адзіночка. Бо царскі ўрад не мог цаніць вялікай работы смелага садавода. Тупагаловыя царскія чыноўнікі асмяялі Мічурына, калі ён звярнуўся да ўрада за дапамогай.

Толькі савецкая ўлада ацаніла работу Івана Владзіміравіча, акружыла яго сваёй увагай, сваімі клопатамі. Заняты працай па адбудове краіны пасля вайны, Владзімір Ільіч Ленін усё-ж такі знаходзіў час цікавіцца

работай вялікага садавода. Ён дае свае ўказанні аб дапамозе Івану Владзіміравічу, аб увазе да яго работы.

І Іван Владзіміравіч з шчырасцю, з любоўю працуе на карысць Савецкай краіны. Створаны Совецкім урадам Інстытут садаводства дае ў дапамогу Мічурыну новых совецкіх спецыялістаў.

Вялікі сад (каля 5 тысяч гектараў) красуецца цяпер на мічурынскіх палях. Якіх толькі дрэў тут няма! І адкуль толькі іх сюды не прывозілі: з Манчжурыі, з Іспаніі, з Манголіі, з вострава Суматры, з розных частак Совецкага саюза. Крапатлівая работа праводзіцца ў гэтым садзе: з аднае краіны прывозяць сюды вінаград, скрыжоўваюць яго з дрэвам другой краіны і праз некалькі год выходзіць зусім новы, больш устойлівы гатунак. Гэты вінаград не баіцца халадоў, ён можа расці каля Тамбова.

За выдатныя заслугі Совецкі ўрад узнагародзіў Івана Владзіміравіча вышэйшымі ўзнагародамі: ордэнам Леніна і ордэнам працоўнага сцяга. А горад Казлоў у гонар вялікага садавода перайменаваны ў Мічурынск.

7 чэрвеня гэтага года Іван Владзіміравіч Мічурын памёр. Больш за 350 гатункаў розных пладовых дрэў, выведзеных ім, пакінуў ён у спадчыну сваёй совецкай радзіме. Яблыкі, ігрушы, слівы, чарэшні, вішні, маліна, абрыкосы, вінаград, смародзіна, дыні—вось частка тых раслін і дрэў, над якімі з любоўю ўсё жыццё праводзіў свае вопыты няўтомны і шчыры садавод. Яго работу прадаўжаюць цяпер сотні навуковых работнікаў-садаводаў. А ў дапамогу ім ідзе змена юных натуралістаў-мічурынцаў.





Л. Н. ТАЛСТОЙ

# АРОЛ

Арол звіў сабе гняздо на вялікай дарозе, недалёка ад мора, і вывеў дзяцей.

Адзін раз каля дрэва працавалі людзі, а арол падлятаў да гнязда з вялікай рыбай у кіпцях. Людзі ўбачылі рыбу, акружылі дрэва, сталі крычаць і кідаць у арла каменнямі.

Арол выраніў рыбу, людзі паднялі яе і пайшлі.

Арол сеў на край гнязда, а арляняты паднялі свае галовы і сталі пішчаць: яны прасілі есці.

Арол змарыўся і не мог ляцець зноў на мора; ён спусціўся ў гняздо, прыкрыў арлянят крыллямі, песціў іх, папраўляў ім пер'я і нібы прасіў іх, каб яны пачакалі крыху. Але чым больш ён іх песціў, тым мацней яны пішчалі.

Тады арол адляцеў ад іх і сеў на верхні сук дрэва.

Арляняты засвісталі і запішчалі яшчэ жаласней.

Тады арол раптам сам закрычаў, разняў крыллі і цяжка паляцеў на мора. Ён вярнуўся толькі позна вечарам. Ён ляцеў ціха і нізка над зямлёй; у кіпцях яго зноў была вялікая рыба.

Калі ён падляцеў да дрэва, ён аглянуўся—ці няма зноў блізка людзей, хутка згарнуў крыллі і сеў на край гнязда.

Арляняты паднялі галовы і разявілі раты, а арол разарваў рыбу і накарміў дзяцей.




*Апавяданне А. Траецкага*
*Малюнкі В. Басава*

Вясною ў паводку вада вышла з берагоў і падступала да самага лесу. Нават некаторыя ўзбярэжныя векавыя дубы былі акружаны вадой. Вада прыбоямі пляскалася аб іх векавыя камлі, прасочвалася пад тоўстыя карэнні і падмывала іх. Але дубы стаялі, дубы яшчэ моцна трымаліся за зямлю. Слабейшыя-ж, падгніўшыя дрэвы не вытрымлівалі такога напору вады. Яны хісталіся, падалі і, падхопленыя вадою, плылі ў бяскрайнюю далячынь.

Малыя хлапчукі: Васька, Мішка, Сярожка ды Грышка з Пецькам вельмі любілі наглядаць як гэта вада ваюе з дрэвамі. Яны ад самага рання прыбеглі сюды на бераг ракі, і з вясёлымі крыкамі бегалі па кургане, калі бачылі, што вада закружыла ў віры якое-небудзь дрэва.

— Хлопцы! Хлопцы! Яшчэ адна паплыла.

— А што, калі-б сеў на тое дрэва, куды-б заплыў?—пазіраючы ў бескрайнюю далячынь паводкі, прагаварыў Васька.

І сапраўды вельмі цікава ведаць, у якія краі заплывуць гэтыя дрэвы.

Узабраўшыся на верхавіну хвойкі, хлапчукі пачалі выказваць розныя меркаванні. Захопленыя гарачымі спрэчкамі, яны нават забыліся пра зямлю. Ім было вельмі весела ў самым шчытку дрэва.

А на зямлі, пад дрэвам, адбывалася ў гэты час нешта страшнае... Раз'юшаная вада навальніцай хлынула з ракі і затапіла ўсю даліну... Яна злосна булькатала, бушавала і падмывала карэнні падгніўшага дрэва, на якім спрачаліся хлапчукі.

А яны можа-б і да самага вечара спрачаліся, каб Сярожка не перапыніў іх.

Пачуўшы нейкі шум, ён раптам зірнуў уніз, ажно там, пад іхнім дрэвам, пенілася, бушавала вада... Перапалоханы, ён ледзь не ўпаў з дрэва і крыкнуў:

— Хлопцы, вада!

Ухапіўшыся аберуч за дрэва, Сярожка плакаў і дрыжаў ад страху. А калі зірнулі хлапчукі ўніз, то і сапраўды ўбачылі, што амаль уся даліна заліта ўжо вадой... Перапалохаліся і яны.

— Што будзем рабіць?—запытаў у роспачы Мішка.

— Прапалі!.. Патопімся!.. І мамка не будзе ведаць,—усхліпваў Сярожка.

Адзін толькі Васька не падаў духам.

— Пусціце мяне ў разведку,—прагаварыў ён, спускаючыся на ніжнія галіны.—Я зараз-жа знайду лазейку і мы вылезем сухімі.

З гэтымі словамі Васька важна смаргануў носам і палез уніз на разведку.

Але, калі ён ступіў на самую ніжнюю галіну, то ўбачыў, што лазейку знайсці не так лёгка. Каля дрэва страшна бушавала вада, вымываючы з-пад карэнняў груды пяску і зямлі.

Кінуцца ўплаў, каб выбрацца на сухое месца? Але ён тут-жа ўспомніў, што не ўсе ўмеюць добра плаваць і што Сярожка зусім не плавае. А тут такі страшны вір круціць каля дрэва, што можа і добрага плаўца збіць. Ён то сам, Васька, адзін напэўна выплыў-бы, але-ж нельга пакідаць таварышаў у бядзе. Трэба прыдумаць нешта новае, але як на тое, у галаве пуста—аніводнай думкі.

— Што будзем рабіць?—гукнуў на яго зверху Мішка.

— А хто яго ведае...—у роспачы адказаў Васька.

Пачуўшы гэта, малы Сярожка яшчэ часцей захліпаў носам, яшчэ горш закалаціўся ад страху.

— Толькі не хныкаць,—падбадзёрваў Васька, хоць у самога халодныя мурашкі забегалі па спіне.

Сярожка не вытрымаў і расплакаўся. Па яго прыкладу захліпаў і Грышка.

— Не хныкаць, кажу!—злосна крыкнуў Васька.—Нюні вы! Баязліўцы! А калі-б вам прышлося ў акіяне на караблі плаваць, тады што-б вы рабілі?

І Васька тут-жа расказаў як яго дзядзька матрос плавае па ўсіх акіянах і зусім не баіцца вады. А то, падумаеш, на нейкі там метр паводкі, а яны ўжо і перапалохаліся. Пры гэтым ён яшчэ дадаў, што ў час вайны дзядзькаў карабель на дно пайшоў, а ён сам застаўся жыць таму, што заўсёды быў храбрацом і не баяўся вады.



— Я таксама, як вырасту, пайду ў матросы і буду



плаваць па ўсіх акіянах,—смела і рашуча закончыў Васька.

Гэтае апавяданне крыху падбадзёрыла хлапцоў. Яны павесялелі.

— Чаго нам дужа баяцца, — сказаў Мішка,—пасядзім тут, пакуль вада збяжыць, хіба нам тут дрэнна?

Умасціўшыся лепш на суку, ён нават пачаў насвістваць штосьці вясёлае.

— Пасядзім, — не пераставаў плакаць Сярожка, — а што, калі яна і за поўгода не збяжыць. А што, калі дрэва...

Але не паспеў ён дагаварыць, як дрэва раптам уздрыгнула і нібы пахіснулася на-бок.

Вада злосна забурліла, забулькатала каля карэнняў.

— Вой! Вой! Я баюся!—запішчаў Сярожка.

— Вой, пападаем! — загаласіў Грышка.

„Што такое? Няўжо падмывае карэнні?"—падумаў Васька і паглядзеў уніз. Там страшэнна бушавала вада, вымываючы з-пад карэнняў груды пяску і дзёрну.

— Падмывае,—прашаптаў Васька і яшчэ болей прыкусіў губу.

— Ратуйце!—паспрабаваў крычаць Грышка і голасна заплакаў. І ўсе хлапчукі ў адзін голас сталі клікаць на дапамогу.

Але ў адказ на іхнія крыкі ніхто не адзываўся.

А Васька тымчасам падраў усю сваю кашулю на істужкі і спрытна круціў з іх вяроўку.

— Давайце сюды ўсе кашулі! —падаў каманду ён.

Сябры не спрачаліся. Яны ўсе ў момант скінулі кашулі і пачалі драць іх. Васька спешна стараўся круціць вяроўку і ўсё вымерваў вачамі да сухога кургана. Напрамкі было не вельмі далёка, але ніводнага дрэва на дарозе не было. І Васька ў думках парашыў прабірацца другім шляхам,—паміж дрэў. Ужо

вяроўка была амаль гатова, ужо Васька пачаў памаленечку апускацца на ніжнюю галіну, як раптам раздаўся глухі трэск. Дрэва нахінулася, затрашчала і пад крыкі хлапчукоў шлёпнула на ваду. Вада запенілася, зашумела ў галлі. Хлапчукі крычалі, плакалі, барахталіся паміж галля ў вадзе. Васька першым выбраўся наверх дрэва. Камель яго яшчэ трымаўся над вадою на вывернутых высокіх лапах-карэннях.

— Трымайся мацней за галлё!—крыкнуў Васька і пабег па верхавіне ўніз у ваду. Прывязаўшы вяроўкі за галіну, ён схапіў другі канец у руку і кінуўся ўплаў да Сярожкі. Сярожка ўжо чуць-чуць трымаўся за тоненькі хвосцік галінкі. Вада яго кідала ва ўсе бакі і вось-вось гатова была адарваць яго разам з галінкай і назаўсёды захаваць у сваіх мутных хвалях.

Васька ў час падаспеў. Ён кінуў да Сярожкі вяроўку, той ухапіўся за яе і Васька выцягнуў яго на сухі камель дрэва. Астатнія хлапчукі па-



малу выбраліся самі. Усе былі мокрыя, дрыжалі ад холаду. Васька прывязаў за паясніцу сабе адзін канец вяроўкі, а другі падаў таварышам.

— Вы сядзіце, пакуль я даплыву да таго вунь дрэва. А тады я вас ўсіх перацягну туды.—І ён скокнуў у бурлівы вір вады. Вада падхапіла яго і хацела знесці на бок, але ён не паддаваўся, плыў, рассякаў хвалі напорыстымі ўдарамі рук. Вада ўсё-ж такі перамагла сваею сілаю і пачала зносіць убок. Тады Васька раптам нырнуў пад ваду і знік.

Хлапчукі перапалохаліся.

— Утапіўся!—крыкнуў Сярожка і заплакаў яшчэ горш.

— Цягні за вяроўку!—падштурхнуў Пецька Мішку.

— Яго-ж панесла ў раку...

Мішка ўжо схапіўся за вяроўку і пачаў нацягваць, але ў гэты час Васька вынырнуў каля самага дуба.

— Хлопцы, я ужо тут,—радасна крыкнуў ён, хапаючыся за ніжнюю галіну.—Нельга было плысці, дык я па дну поўз. А зараз за мной! Толькі не трусіце. Сярожка, мацней трымайся за вяроўку, усіх вывалаку!

Не паспелі ўсе, як след, пабрацца за вяроўку, як камель, на якім яны сядзелі, раптам здрыгануўся, заварушыўся і паплыў за вадою разам з хлапчукамі.

Усе яны крычалі, плакалі і не ведалі, што рабіць.

— Кідайся ў ваду!—камандаваў Васька. І бачачы, што хлопцаў адносіць разам з дрэвам на самае глыбокае месца, шмаргарнуў за вяроўку. Хлапчукі апынуліся сярод бурлівых хваль.

А праз некаторы час усе яны ўжо сядзелі каля Ваські на дубе. Хоць і далекавата яшчэ было да кургана, але, падбадзёраныя Васькам, яны крыху павесялелі.

— Са мною нідзе не прападзеш, — казаў Васька,—а-ну, сіганем далей.

І калі выбраліся на курган, пад старыя хвоі, Васька гаварыў:

— Храбрацы нідзе не прападаюць. Яны заўсёды выплываюць. Вось мой дзядзька матрос казаў...

І хлапчукі жвава кінуліся бегчы дамоў.



# ЛАГЕРНАЯ ПЕСНЯ

*Словы А. Введзенскага*
*Музыка Н. Сакалоўскага*

**ВЕСЕЛА, УМЕРАНА**




Эх, ішлі рэбяткі,
Эх, ішлі рэбяткі—
Хлопцы і дзяўчаткі
Праз лясок...
Праз лясок зялёны,
Дзе дубы і клёны,
Вышлі ўсе рэбяткі
На лужок.

Прыпеў:
Ой, які-ж харошы
Быў лужок!
Рос на ім кваціcты
Муражок.

Каля ста рэбятак,
Жвавых окцябратак,
Разам з фанфарыстам—
Шаг у шаг—
Цераз мост шагалі,
Песні распявалі
Аб жыцці вясёлым
Ў лагерах.

Прыпеў:
Граў трубач прыгожа,
Граў ён так,
Што заціх на дрэве
Нават грак.

Эх, ішлі рэбяткі—
Хлопцы і дзяўчаткі...
Вось ужо і поле
За лужком...
Раптам ў небе хмары,
Раптам ў небе хмары,
Зашумелі дрэвы,
Грымнуў гром.

Прыпеў:
Праз хвіліну дожджык
Так паліў,
Што з бяроз і вольхаў
Ліст паплыў.

Дождж ідзе і мочыць,
Дождж ідзе і мочыць,
Мочыць, як ён хоча,
Сто галоў.
Тут была канава,
А каля канавы,
Дзе густыя травы,
Сто кустоў.

Прыпеў:
Гэй, хутчэй, рэбяты,
Пад кусты...
Ліся сабе, дожджык,
Ліся ты.

*Пераклад А. ЗІМІОНКІ.*



## Што за ён?

Па падлозе скок ды скок,
Скокнуў шэранькі звярок
І схаваўся пад заслон.
Угадайце, што за ён?
Закрычаў малы Рыгорка:
— Не іначай як вавёрка!

Зося крыкнула, што крот,
А Пятрусь, што гэта кот.
Оська, Лёня, Кім і Рая
Закрычалі:—заяц, заяц!
Угадала толькі Люся:
„Што вы,—кажа,—гэта-ж...





Мы заказвалі мастаку нарысаваць ваўка і вавёрку, а ён прынёс нам вось гэтыя фігуркі рознай формы.

— Спяшаўся, — кажа, — не паспеў толькі злажыць, але тут усё правільна на левым рысунку—вавёрка, а на правым—воўк.

Мастак пайшоў. Мы паспрабавалі складаць. Выходзіць, што правільна.

Паспрабуйце і вы, рэбяты, злажыць з гэтых фігурак вавёрку і ваўка. Толькі спачатку перарысуйце іх, а потым складайце.



АДКАЗ НА ЗАГАДКУ „ЗДАГАДЛІВЫ КАВАЛЬ".

Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.
Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ
Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА
Друкарня ім. Сталіна 10.000 экз. Зак. № 682. Уп. Галоўлітбела №Б—3387